У нумары:
Дзіўны лёс народнай казкі
Яшчэ пра сесію аб Грамадзе
Аўтаб'яграфія бельскага хлопца

# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 50 (511) | ГОД X | 12 СНЕЖНЯ 1965 г. | ЦАНА 60 гр.

ЗА ТЫДЗЕНЬ

Р. Паўлюк: РАЗМОВЫ АБ РЫБАЛАЎСКАЙ МОДЗЕ.

А. Карпюк: НОВАЯ ПРАГРАМА І ШТО ДАЛЕЙ.

Анатоль Канапелька

## МОВА

Яна прыйшла з мільёнамі гамонак,
Яна прыйшла, ўсміхнулася здалёк.
І белай-белай моваю рамонак
Зашалясцеў ласкавы вецярок.
Я не здзівіўся, што такую мову
Я змог адразу сэрцам зразумець.
Я прагна слухаў трапяткое слова
І навучыўся размаўляць і пець.
І я шчаслівы,
Што жыву з табою,
Што ты са мною. мудрая ідзеш.
Ты часам плачаш ад людскога болю,
Смяешся ты ад радасці людзей.

## Дзве справы

Дзесяць год таму назад у Сакольскім павеце існавала больш дваццаці школ з беларускай мовай, як прадмет. Цяпер такіх школ ёсць усяго дванаццаць — у Крушынянах, Кнышэвічах, Сухінічах, Гуранах, Ласінянах, Паўночным Востраве, Астроўку, Новым Востраве, Вялікіх Азяранах, Лішчаной, Нетупе, Гаркавічах.

Сталася так таму, што асветныя ўлады не прыдаюць належнага значэння беларускай мове ў школе. Гаворачы гэта маю на ўвазе, перад усім, павятовы аддзел асветы ў Саколцы, які не дбае пра кадры настаўнікаў беларускай мовы. Напрыклад, у Борках вучылі беларускай мовы настаўнікі, якія не ўмелі альбо навэт і не разумелі яе. Былая боркаўская настаўніца так успамінае цяпер:

— Дзеці ў Борках разумеюць гэту мову, і я казала ім, каб чыталі сабе сёе-тое з кніжкі...

Нічога дзіўнага, што боркаўскія бацькі збунтаваліся супраць такога марнатраўства часу дзяцей, дайшло да сварак і ліквідацыі прадмета беларускай мовы.

Аднойчы да адной школы ў вёсцы В. прыехаў на візітацыю ўрокаў беларускай мовы прадстаўнік Сакольскага аддзела асветы. У кожнай школе візітацыя лічыцца важным здарэннем. Устрывожаная настаўніца схапіла падручнік... рускай мовы і пачала ўрок беларускай мовы! Але гэтай яе памылкі ніхто не заўважыў: ані візітатар, ані кіраўнік школы, ані сама настаўніца.

Падобныя смутна-камічныя сітуацыі, як у Борках ці ў вёсцы В. паўтараюцца таксама ў іншых школах і будуць паўтарацца. Цэлая прычына ў тым, што амаль усе настаўнікі беларускай мовы ў школах Сакольшчыны ніколі ў сваім жыцці не вучыліся гэтай мовы — калі не лічыць кароценькіх курсаў у Мінску, якія больш падобныя на заграничную экскурсію.

У Нетупе каля 70% дзяцей ходзіць на ўрокі беларускай мовы. Праводзіць іх стары настаўнік Іван Каліш. Але ён ужо хутка пяройдзе на пенсію, і кіраўнік школы Леанард Вараневіч застанецца без дапамогі, бо ніхто з рэшты настаўнікаў не ведае гэтай мовы. Падобнае на тое, што з адыходам Каліша перастане існаваць прадмет роднай мовы ў нетупскай школе! А ў Паўночным Востраве кіраўнік мясцовай школы Мар'ян Філановіч штогод просіць асветныя ўлады, каб накіравалі ў яго школу настаўніцу ці настаўніка кваліфікаванага да навучання беларускай мовы. Такія настаўнікі знайшліся, але ўлады накіравалі іх у Мінкаўцы або ў Плебанава, дзе няма прадмета беларускай мовы.

Не чуваць было, каб хтосьці з Сакольскага аддзела асветы ездзіў у Педагагічны ліцэй з беларускай мовай у Бельску, дзе выхоўваюцца кадры беларускіх настаўнікаў. Ніхто не запрапанаваў абсальвентам таго ліцэя працу на Сакольшчыне, а калі нейкая абсальвентка ці абсальвент самыя надумаліся паехаць у Саколку, дык кіруюць іх аж гэй у Мінкаўцы!

Сітуацыя школ з беларускай мовай у суседнім Беластоцкім павеце вельмі падобная да сітуацыі такіх школ у Сакольскім павеце. У Беластоцкім павеце існуе 33

(Працяг на стар. 5)



Зіма ў Беластоцкім парку.

Фота: З. Зарэмба

## Рыхтуемся да аглядаў мастацкай самадзейнасці

Як штогод, традыцыйна Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства рыхтуецца да аглядаў гурткоў мастацкай самадзейнасці.

Некалькігадовая практыка паказвае, што найлепшым тэрмінам правядзення аглядаў ёсць другая палова студзеня і першая палова лютага.

У сувязі з тым Галоўнае праўленне БГКТ вырашыла правесці павятовыя агляды да канца студзеня, а агульны агляд у пачатку лютага.

У гэтым годзе ГП БГКТ выслала рэпертуар ва ўсе гурткі мастацкай самадзейнасці, якія працавалі ў мінулым годзе.

Усе новыя гурткі могуць атрымаць п'есы або ў Праўленнях аддзелаў або ў Галоўным праўленні БГКТ у Беластоку.

Лепшыя гурткі будуць узнагароджаны. Варта падумаць аб падрыхтоўцы да аглядаў. Умовы аглядаў будуць пададзены ў «Ніве» ў пазнейшым тэрміне.

Кіраўнік Арганізацыйнага аддзела
**Мікола Лобач**

## Перадз'ездаўская трыбуна

## ШКОДНАЯ ІНТЭРПРЭТАЦЫЯ РОЛІ БГКТ У ГАЛІНЕ АСВЕТЫ

У дыскусіі, якая праводзіцца на тэму БГКТ, мяне цікавяць, больш усяго, справы нашай нацыянальнай асветы.

Праблематыка асветніцкая ў дагэтуляшняй працы таварыства займала адно з асноўных месц. Сведчыць аб гэтым пакліканне асветнай камісіі пры ГП, часта выступаючая асветная праблематыка на пленумах і пасяджэннях прэзідыума, а таксама разглянданне гэтых спраў нацыянальнай камісіяй пры Цэнтральным і Ваяводскім камітэтах партыі.

У Галоўным праўленні (і не толькі) ёсць даволі тоўстая папка з дакументамі: пастановамі, прапановамі, загадамі і т.п. у справах асветы і культуры. Знакомячыся з іх зместам звярнуў я ўвагу на іх лагічнасць і дбайнасць аб развіцці асветы і культуры нацыянальных меншасцей, а таксама ўказанне на тых, хто пра тое мае дбаць. Але з аптымістычных задумаў вымушаны вярнуцца да рэчаіснасці — гэтых загадаў амаль ніхто не рэалізуе. Чаму?

На адной нарадзе вырашалася справа адной школы з бел. мовай навучання. Давялося мне выступаць ад імя таварыства. Высокапастаўлены працаўнік Кураторыі, які прымаў удзел у гэтай нарадзе, у размове ў кулуарах, звярнуўся да мяне, як да прадстаўніка таварыства: «Але ж вашым «вочкам у галаве» павінен быць ліцэй, яго вы павінны паставіць». — «Каму павінен быць «вочкам у галаве» таварыству ці Кураторыі?» — можа нават сварліва адказаў я. У гэтым пытанні мой субяседнік пачуў адказ.

Успомніўся мне час, калі ў 1949 годзе пачало адраджацца бел. школьніцтва. Паўстаў у Бельску Агульнаадукацыйны, а потым Педагагічны ліцэй з бел. мовай навучання. Школы гэтыя паўставалі без удзелу таварыства. бо яго не было. На вёсцы адрадзіўся нацыянальны мастацкі рух. Драматычныя і харавыя калектывы хутка раслі і цешыліся папулярнасцю. Школы атрымалі вялікую колькасць падручнікаў і літаратуры з БССР.

Гэтыя дасягненні трэба прыпісаць дбайнасці аддзелаў асветы і культуры, а таксама прафсаюзным і маладзёжным арганізацыям, пра справы нацыянальных меншасцей, пра развіццё беларускай асветы і культуры.

Але справа пачала набіраць іншага характару, калі пачало сваю дзейнасць БГКТ. Вышэй успамянутыя ўстановы пачалі ўсе гэтыя справы спіхаць з сябе на таварыства. А трэба сказаць, што таварыства часта ахвотна, хаця бяспраўна, гэтыя абавязкі ўспрыймала на сябе. Так паўстаў няпісаны закон, што ГП БГКТ адказвае за беларускія школы, за падручнікі, за праграмы навучання для гэтых школ, за мастацкія калектывы і т.п. Такім чынам, напрыклад, асветныя ўлады нашага ваяводства ад некалькіх год займаліся беларускім школьніцтвам толькі фармальна. Ніводнага разу не ставіліся яны куратарыяй перад інспектарамі з паветаў, а тыя не закраналі гэтых спраў перад кіраўнікамі школ. Абыякавасць некаторых аддзелаў асветы была прычынай ліквідацыі беларускай мовы ў школах, хаця гэта і не было мэтазгодна з педагагічнымі аспектамі навучання. Агляды мастацкіх беларускіх калектываў зусім не былі ўняты ў планы аддзелаў культуры ў апошні час. Такіх грахоў можна множыць і множыць.

На маю думку гэткая інтэрпрэтацыя істоты і ролі таварыства не толькі дрэнная, але і шкодная.

Дык чым павінна быць таварыства? Перад усім павінна быць інспіратарам і сігналізатарам, а таксама рэпрэзентантам спраў, якія адносяцца да беларускай нацыянальнасці. Працаўнікі таварыства па-

(Працяг на стар. 4)

 

# Дзіўны лёс народнай казкі

Дзіўны і крыўдны яе лёс. Акроеная, «упрыгожаная», «дашліфаваная» мастакамі, пазбаўлена часта істотнага яе зместу. выдаваная ў сотнях тысяч экземпляраў. стаецца народная казка прыемнай, нявіннай гульнёю для дзяцей і старэйшых.

А калісь, гадоў таму 60 ці 70, вандравала сялянская казка ад хаты да хаты ў прымітыўнай, непісьмовай форме, выяўляючы народную мудрасць, народны светапогляд, народную філасофію, народную наіўнасць.

Робяць крыўду народнай казцы фальклярысты, літаратураведы, знаўцы мастацтва праз свае аналізы мастацкіх вартасцей, праз раскладанне яе на часціны, паказванне яе алегорый, метафар і г.д. Бо ўсе гэтыя катэгорыі, аналізы, якімі паслугоўваюцца мовазеды, з'яўляюцца іх, сучасных моваведаў катэгорыямі, адпаведнымі да іх ведаў, светапогляду, спосабу разумення.

А тым часам нішто не паказвае, каб народ, які тварыў свае несмяротныя казкі, разумеў іх як нейкую алегорыю, г.зн. нішто не паказвае, каб народ не разумеў гэтых казак проста і даслоўна. Каб разумець народную казку, трэба зразумець аўтэнтычны народны светапогляд і ў яго святле аналізаваць яго літаратуру, казку, а не ў святле сучасных літаратурных паняццяў і катэгорый.

Зразумела, у кароценькім артыкуле нельга нічога талковага сказаць аб светапоглядзе адізаляванага ад свету сялянскага грамадства, ствараючага самабытную культуру. Кожны, аднак, хто сутыкнуўся з праўдзівымі фальклорнымі запісамі, хіба ведае аб тым, што няма ў іх вострага размежавання паміж ведамі аб свеце, светапоглядам, а казкай, літаратурай. І кожны, каму прыходзілася слухаць аўтэнтычных апавяданняў і казак. скажам. сярод кудзельніц у доўгія зімовыя вечары, ведае, што гэтыя часта найбольш фантастычныя апавяданні, найчасцей трактаваліся, як расказы аб канкрэтных падзеях, якія здарыліся ў іх вёсцы або ў бліжэйшай аколіцы. Часта датычылі яны асобы апавядальніка, яго знаёмых, продкаў, дзядоў, прадзедаў і г.д. Згодна з народным светапоглядам увесь свет перапоўнены быў дзіўнымі фантастычнымі з'явамі, як чалавек надзелены псіхалогіяй. Хацелася б сказаць, што быў гэта свет быццам з казкі дзіцячай, калі б гэтая казка не была менавіта светам народнага светапогляду, з якога сучаснасць стварыла дзіцячыя гульні. Схільнасць да веравання ў розныя фантастычныя казачныя падзеі ў беларускага селяніна пацвярджаюць усе этнографы, а М. Федароўскі падае прытым наступныя прыклады:

«Так, напрыклад, калі восенню 1881 года ў вёсках распаложаных непадалёк Слоніма панавала страшэнная воспа, адна жанчына з вёскі Студзяроўшчыны разгаласіла, што выйшаўшы раніцаю перад хату, убачыла сярод густой імглы сілуэт жанчыны ў чорным адзенні, якая павольна перасоўвалася над вёскаю. Некалькі дзён пазней апавядана сабе казку аб чалавеку з рагамі, якога не далей як учора меў нехта сустрэць у лесе, а неўзабаве разышлася пагалоска пра Цыгана-чараўніка, які каля Навагрудка трох хлопцаў у ваўкоў пераменіў. Помню таксама, што адной зімы вялікае ў народзе зрабіла ўражанне звестка аб набліжаўшымся канцы свету і яшчэ не меншае аб дзіцяці, якое зараз пасля нараджэння мела закрычаць «дайце хлеба!», што абазначаць мела голад у недалёкай будучыні. («Люд беларускі» т. І, стр. 8)

Таксама многія запісы беларускага фальклору пачынаюцца вельмі канкрэтна:

«Паказваюць старыя людзі, што каля Свіслачы з таго свету каморнік хадзіў, праз кілька лет, па цэлых начах, зіму і лета, з ланцугом перамерваў поле, забіваў шпікі ў зямлю і зазначаў граніцы. А гэта ён за жывую галаву браў подкуп і мерыў не папраўдзе. У іншых вёсках не пільнаваліся граніц так як мерыў ён за жыцця, але так як пасля смерці».

Або:

«Як у Поразаве была бура, то бачылі ў хмары, што шасцёх вялізных мужчын нештась усё ралі, так тут зноў віхар рваў страхі, дамы, платы, усё».

Казкі аб волатах, асілках, вернідубах і т.д. М. Федароўскі змяшчае ў раздзеле прысвечаным міфалогіі беларусаў. Спаўнялі яны сярод беларусаў такую ж ролю, як міфічныя апавяданні старажытных рымян ці грэкаў, г. зн. былі не толькі літаратурнымі творамі, але праявам пануючых вераванняў. Калі ж разыходзіцца аб казкі пра людзей перамененых у ваўкоў і іншых звяроў, аб жыцці звяроў, у якіх прыпісваецца ім чалавечую псіхалогію, усё гэта было неадлучным элементам народных вераванняў.

Гаворыцца часта аб грамадскай ролі казкі, аб тым, што высмейвала яна багатых а ўзрушала бедных, што кляйміла грамадскія заганы, угрунтоўвала веру ў астатковую перамогу справядлівасці над несправядлівасцю і г.д. Усё гэта праўда. Грамадская роля казак была б аднак беспараўнальна меншай. калі б трактаваліся яны выключна як літаратурныя творы, у якіх апавядаецца аб падзеях фікцыйных, выдуманых. Так аднак не было. У аграмаднай большасці казкі і легенды трактаваліся даслоўна, што зрэшты характэрна для народнага разумення не толькі казак, але і літаратуры наогул. І гэта ўзмацняла іх грамадскую ролю.

УЛАДЗІМІР ПАЎЛЮЧУК

---

**Калі Павел Чэрвінскі стаў правакатарам, цяжка сказаць. Праўдападобна незадоўга да райскага выступлення. Гэта, дарэчы, на маю думку, не мае істотнага значэння.**

**Урэшце «ўдалося» паліцыі «арыштаваць» райскага «масавіка» і Павел Чэрвінскі пачаткова знайшоўся сярод нас на лаве абвінавачаных на 14 месцы па спіску. Такім чынам паліцэйскія ўлады намагаліся прыкрыць яго правакатарскую дзейнасць. Нібыта ён таксама абвінавачаны, як і мы ўсе. У акце абвінавачання пра Чэрвінскага гаварылася між іншым так:**

**«Павел Чэрвінскі да віны прызнаўся і ў падрабязных паказаннях ахарактарызаваў рост камуністычнай арганізацыі ў вёсцы Райск, генезіс і ход антыпадаткавых выступленняў і выявіў некаторых вядомых яму членаў партыі...»**

**Ужо з гэтых пракурорскіх слоў ясна вынікае яго правакатарская роля. Пасля першых дзён судовага разбору нашай справы суд рашыў забраць Паўла Чэрвінскага з лавы абвінавачаных і далей выступаў ён як сведка. Са сваёй сабачай ролі вывязаўся выдатна. Паліцыя высока ацаніла яго «заслугі». За прадажніцтва атрымаў ён бясплатна хутар за Райскам. Потым мы даведаліся, што Чэрвінскі яшчэ ў 1917 г. падчас расійскай рэвалюцыі быў белагвардзейцам.**

**На пяты дзень зачыталі прыгавор. Мне і Івану Астроўскаму — 10 год турэмнага заключэння, Кахановічу. Тымінскаму, Мамотку і некаторым другім — па 8 год.**

**Быў гэта першы, найважнейшы, але не апошні судовы працэс па «райскай» справе. Потым пасыпаліся другія. Судзілі асобна жыхараў Крывой, Плюціч, Гусакоў, Гацькоў і другіх вёсак. Разам стала перад судом некалькі сот чалавек.**

**Прыгавор прыняў я спакойна, хаця не скажу, каб лёгка было на душы. Я ж распачаў толькі 26-ты год жыцця! Цяжка было падумаць, што маладосць мая пройдзе за кратамі пад наглядам ахраннікаў. што прыгавор пазбаўляе мяне ўсяго гэтага, што з роду належыцца чалавеку майго ўзросту. І за што? Бяссільная злосць пераўтварылася ў волю змагання.**

---



У Доме культуры імя Кастуся Каліноўскага ў Гарадку. Фота Г. Рагазінскі

## Што новага ў літаратуры?

Сустрэча была нечаканай. Гартаючы ў кнігарні кніжныя навінкі, шукаў я сваёй тэмы. Але нічога цікавячага мяне не траплялася і занятак пачынаў нудзіць. Раптам маю ўвагу прыкавала зусім новае але адкульсьці знаёмае, прозвішча. Ян Верамеюк! Ну, так. Некалькі год таму назад друкаваўся ў «Ніве». Беглы агляд кніжкі абяцаў цікавае чытанне. Я забыў пра сваю тэму. Купіў кніжку і дамоў. І за яе. Чытаў адным захадам. Мала! Я не чытаў, я хутчэй слухаў захапляючы расказ няведамага мне, але блізкага чалавека, які гаварыў аб сваёй нештадзённай маладосці. Слухаў і баяўся, каб расказчык не спыніў гутарку, або не скрыў чаго перада мной. Хацеў ведаць усё з яго жыцця. Бо ў ім бачыў жыццё аднаго з найцікавейшых нашых пакаленняў.

Верамеюк расказваў толькі аб двух гадах гісторыі гэтага пакалення. Пачатак: 15 верасня 1944 года. Бельск Падляшскі. Яшчэ паўтара месяца таму назад горад гарэў у полымі вайны. А ўжо адкрываецца адбудаваная гімназія. Вучні гоцаюць савецкага каменданта горада — галоўнага ініцыятара і пратэктара адбудовы (капітальнае яго выступленне: «Я ведь сказал, что все будет во время. Ну так вот и есть. Учитесь»). Вучацца. Наганяюць страчаныя гады. Маюць нават сваіх карыфеяў: Валодзьку па гісторыі, Толіка па матэматыцы, Юрку па біялогіі. Сябруюць і марацы. Але вось Таня чатыры дні не была ў школе. Прышла з апухлымі павекамі. Пахавала брата. Быў у Цеханоўцу міліцыянерам: забілі бандыты. Потым дзеюцца ў павеце рэчы, ад якіх валасы падымаюцца дыба. Дагэтуль розныя нацыянальнасці жылі тут згодна. Хто хоча іх пасварыць? Вее панурым сярэдневякоўем. У навагоднюю ноч банда «Белага Болька» мардуе ў Боцьках бацьку Валодзькі, спакойнага селяніна. Толік з Валодзькам пішуць заяву ў пэпээр. Юрка ўжо раней запісаўся. Пара і на Янку. Сябры прапускаюць школьныя заняткі і, разам з бяспекаўцамі і міліцыянерамі, сядзяць у засадах і ганяюцца за бандытамі. Потым, на прапанову камітэта, спыняюць навуку і ідуць выконваць партыйныя заданні. Падзеі кідаюць аўтара з аднаго ў другі канец ваяводства. Урэшце апынаецца ён у Лодзі. Пачынае вучыцца на ваеннага лекара. І тут новае заданне. Зноў на банды. Гэтым разам на тэрыторыі Лодзінскага ваяводства. Шматтысячнае падпольнае злучэнне «Варшыца» — сур'ёзная небяспека для народнай улады. Зноў засады і пагоні, сустрэчы вока ў вока з ворагам і адданая праца на карысць мясцовага насельніцтва. І непарыўная духовая сувязь з роднымі беластоцкімі мясцінамі.

# АЎТАБІЯГРАФІЯ БЕЛЬСКАГА ХЛОПЦА

Тыповая аўтабіяграфія бельскага хлопца тых гадоў. Тыповая? Так. І нягледзячы на гэта — свежая, прыцягваючая сілай першакрыніц. А гэта многа.

Вывад: удзел выхадцаў з беларускага асяроддзя ў жыцці краіны быў для нас прыкметны бадай што выключна ў грамадскіх і гаспадарчых галінах. Аддача ў стварэнні духовых вартасцей была менш відавочнай. Магчыма патрэбны быў тут час. Пацвярджэннем — Ян Верамеюк.

Прапанова: было б добра, каб кніжка Верамеюка знайшлася ва ўсіх нашых бібліятэках. Трэба таксама падумаць аб сустрэчах аўтара з яго землякамі. Мо дарогу пакажа Бельскі ліцэй, якому Верамеюк прысвяціў прыгожыя старонкі сваёй таленавітай кніжкі?

Г. Валкавыцкі

Jan Wieremiejuk: Na froncie nie byłem. MON, 1965, str. 184.

---

### «ГАЛЬКА», «СТРАШНЫ ДВОР», «РЫГАЛЕТА» НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

**У рамах культурна - турысцкай акцыі «Грамады», рэдакцыі «Нашай Всі» і Польскага радыё п.з. «Просім сядаць, едзем» у снежні наведае Беластоцкае ваяводства Дзяржаўная аб'язная опера з Варшавы.**

**У рэпертуары: 2 оперы Станіслава Манюшкі: «Галька» і «Страшны Двор» і опера Джусепе Вердзі «Рыгалета».**

**11 і 12 снежня адбудуцца прадстаўленні «Галькі» ў Гайнаўцы ў Доме Гурніка, а ад 13 да 19 у перамешку ўсе оперы будуць прадстаўлены ў Беластоку ў тэатры Вянгеркі.**

**Білеты прадае «Грамада». Экскурсіі на выезды ў Беласток арганізуе таксама яна.**

**Адрас: Oddział Wojewódzki STW „Gromada" w Białymstoku ul. Warszawska 38 tel. 2470.**

(вл)



**На здымку: фрагмент оперы Станіслава Манюшкі «Галька».**



 



**«БЕЛАЯ НЯДЗЕЛЯ» БЕЛАСТОЦКІХ ЛЕКАРАЎ**

Па ініцыятыве беластоцкіх лекараў арганізавана ў рамах так званай «белай нядзелі» выезд у вёску Ялоўка, якая знаходзіцца ў адлегласці 70 кіламетраў ад Беластока. Мэтай выезду была праверка мясцовага насельніцтва. Лекары рэнтгенолагі, тэрапеўты і стаматолагі праверылі, агледзелі і прасвятлілі каля 800 чалавек.

На здымку: група лекараў і медсясцёр у вёсцы Ялоўка. (а-ліў)

Фота: Я. Мазурэк.

# Шкодная інтэрпрэтацыя ролі БГКТ у галіне асветы

(Працяг са стар. 1)

вінны прымаць удзел ва ўсіх мерапрыемствах устаноў і прадпрыемстваў, дзе вырашаюцца справы беларускай асветы і культуры. Прыкладна, працаўнікі таварыства могуць апрацаваць прыкладную праграму курса асветы дарослых аб беларускай праблематыцы, але планаваць, арганізаваць і адказваць за гэтыя справы павінны тыя, хто да гэтага пакліканы — аддзелы асветы. Каб арганізаваць настаўнікам курс для азнаямлення з новай праграмай беларускай мовы павінна дбаць пра гэта Куратория, а не таварыства. Агляды беларускай мастацкай самадзейнасці павінны арганізаваць ВДК і ПДК пры дапамозе таварыства, а не таварыства. Беларускую культуру могуць і павінны шырыць не толькі БГКТ, але і іншыя арганізацыі, якія існуюць на вёсцы, хаця, на жаль, планы ваяводскіх арганізацый гэтага не прадбачваюць.

Значыць у будучай працы БГКТ павінна скінуць з сябе гэтыя аблудныя (не) абавязкі. Па-сутнасці гэта зусім не абавязкі, бо іх ніхто не ставіў перад таварыствам. Наадварот, сур'ёзныя заданні ставіліся перад школьнай адміністрацыяй і рэсортам культуры. У далейшым трэба зрабіць усё, каб прыпомніць некаторыя пастановы паасобным установам і прадпрыемствам і ўказаць на іх абавязкі ў галіне беларускай асветы і культуры. І хіба гэта між іншым заданне БГКТ і яго праўлення.

**АЛЯКСЕЙ КАРПЮК**

# АДНЫМ СКАЗАМ

У палове снежня адбудзецца ў Беластоку нарада на тэму: як палепшыць працу клубаў «Руху» і ГС.

*

У культурнай дзейнасці вялікае значэнне маюць каардынацыйныя камісіі ў паветах. Сваю працу такія камісіі пачалі ўжо (у кастрычніку і лістападзе) у 8 паветах. Астатнія, чамусьці, адлажылі на пазней.

*

Культурна - асветная праца ва ўсіх арганізацыях жанчын была ацэнена на форум Прэзыдыум ВРН у Беластоку.

*

12 дэкламатарскі конкурс ужо на ходзе. Адбываюцца ў тэрэне агляды. Тэма конкурсу звязана з 1000-годдзем Польскай Дзяржавы. Павятовыя агляды пачнуцца ад новага года.

*

Другі тыдзень снежня быў прысвечаны ў працы бібліятэк на павятовыя семінары для грамадскіх бібліятэкараў.

*

Адбываюцца запісы на новы 2-гадовы кваліфікацыйны курс для бібліятэкараў з сярэдняй і вышэйшай адукацыяй. Пасля курсу бібліятэкар мае поўныя бібліятэкарскія кваліфікацыі.

*

Аказваецца, найбольш папулярнымі тэмамі ў жаночым конкурсе «Здароўе ў сям'і» з'яўляюцца: асабістая гігіена і выхаванне малых дзяцей. (вл)

# Дух Пушчы ў Беластоку

Карціны, якія ў час верасьнёвага І Агульнапольскага пленэра ў Белавежы выйшлі з-пад пэндзля мастакоў, развешаныя на сценах Беластоцкага музея ў Ратушы, вабяць нас, мо і захапляюць, а напэўна прымушаюць да задумы. Дух Пушчы жыве ў іх. Жыве ў іх яе непаўторны драматызм, яе непаўторная вялікасць. Наогул карціны ўводзяць нас у непасрэднае «густое» жыццё лесу. Карціны, з якіх вызіраюць чырвоныя купалы царквы, гавораць, што такі белавежскі краявід запаланіў некаторых мастакоў. Але дрэвы і тут неадлучны элемент.

Самую Пушчу, яе багаты свет (большасць карцін навязвае да гэтай тэмы) розныя мастакі паказвалі па-рознаму і вельмі цікава. Працы пераконваюць гледача, што Пушча патрапіла інспіраваць неспакойную творчую душу мастака.

Што «намалявана» на паасобных карцінах? Яшчэ часта такое пытанне можна пачуць. Яно не мае сэнсу ў адносінах да сучаснага мастацтва. так як мела сэнс да мастацтва, напрыклад, XVIII стагоддзя. Не што «намалявана», але як гэтае нешта ўздзейнічае на тваё ўяўленне — так трэба б падыходзіць і да карцін з Белавежскага пленэра, плён якога мае скласці першы парастак галерэі сучаснага мастацтва ў Беластоку. (вл)




**У папярэднім нумары я пісала аб тым, як жанчыны павінны дбаць пра сваё здароўе ў перыяд цяжарнасці. Зараз хачу параіць, як жанчыны ў перыяд цяжарнасці павінны дбаць пра свой знешні выгляд.**

**Гарадскія жанчыны, тыя што працуюць у розных прадпрыемствах і ўстановах, наогул больш дбаюць пра свой знешні выгляд і адзенне ад тых жанчын, што нідзе не працуюць, або вясковых жанчын.**



**Найбольш істотным правілам з'яўляецца свабоднае адзенне. Усе часткі адзення павінны быць крыху завялікія, свабодныя. Трэба пазбягаць цесных паясоў да панчох, а катэгарычна забараняецца насіць круглыя падвязкі, якія вельмі часта сустракаецца ў маладых дзяўчат на вёсцы. Пастаянны ўціск такіх падвязак, выклікае застой у венах (жылах) і з'яўляецца прычынаю паўставання расшырэння вен на нагах (żylaków). Прычынаю расшырэння вен можа быць таксама неадпаведны абутак. Найбольш карысны абутак у перыяд цяжарнасці — гэта на нізкім абцасе, або на малым катурне, трохі шырэйшае, як нармальна мы носім, гэта на выпадак, калі выступіць пухліна. А як смешна выглядае цяжарная жанчына ў апошніх месяцах цяжарнасці, калі ідзе ў туфлях на высокім абцасе. Памылковым з'яўляецца, што ў перыяд цяжарнасці нельга насіць ліфчыкаў (станікаў). Трэба абавязкова насіць і то размерам большыя. Ніжнюю бялізну пажадана часта змяняць.**

**Сукенку пашыць шырэйшую, трохі даўжэйшую, асабліва спераду, найлепш было б з жакеткаю. Добра да сукенкі прышпільваць белы варатнічок. Вельмі практычна пашыць такі сарафан, які бачыце на здымку. Спераду зашпільваецца ён на гузікі, па чатыры з кожнага боку. Добра гэта тым, што калі жывот робіцца большым, гузікі можна перашываць. Блузкі і світэры можна змяняць часта. Спадніцы і блузкі не з'яўляюцца ані эстэтычным, ані гігіенічным уборам на перыяд цяжарнасці. Нельга дапусціць да таго, каб убор падкрэсліваў дэфармацыю таліі цяжарнай жанчыны.**

**Жанчыны выйшлі ўжо з перыяду брудных і цесных халатаў (шляфрокаў), прытоптаных хатніх туфляў і неўпарадкаваных валасоў.**

**Жанчына заўсёды павінна выглядаць прыгожа, нават тады, калі яе талія мае 100 см.**

**АКСІННЯ**

# ЯШЧЭ ПРА ПАПУЛЯРНА-НАВУКОВУЮ СЕСІЮ

**На заключэнне сесіі сакратар прапаганды КВ ПАРП тав. Мікульскі сказаў, што дакладнае пазнанне гісторыі Грамады можа мець не толькі навукова-тэарэтычнае значэнне, але і практычнае.**

**Гэтая слушная заўвага ўжо знайшла часткова пацвярджэнне. Маю тут на ўвазе артыкул рэд. Паўлючука ў «Ніве» (нр 43, 24.X.1965 г.) пад загалоўкам «Радыкалізм беларускай вёскі», з якога відаць, што ў час падрыхтоўкі матэрыялаў да сесіі ўзнікла патрэба паглыблення ведаў аб Грамадзе, якія былі вядомымі да гэтага часу, прычым трэба адразу падкрэсліць, што рэд. Паўлючук закрануў у сваім артыкуле надзвычайную праблему. Хачу і я на гэтую тэму некалькі заўваг далучыць.**

**Прашу, каб вы не аднесліся да маёй рэплікі ў гэтай справе як да жадання даць адказ, або спробы рашэння пастаўленай аўтарам праблемы. Гэта наогул справа вельмі цяжкая і немагчымая ў рамах прэсавага артыкула.**

**Таму я хацела б дадаць толькі некалькі рэфлексій да праблемы раптоўнасці змен, якія адбыліся ў беларускім народзе ў першых гадах пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. Рэд. Паўлючук бярэ як зыходны пункт да параўнанняў даследванні Міхала Федароўскага спрад 60—70 гадоў. Федароўскі бачыць беларускую вёску, якая як быццам бы ад стагоддзяў замерла ў нерухомасці. Дазволю сабе сказаць, што даследчыкі беларускай справы ў пазнейшы перыяд, з пачаткам дваццатых гадоў таксама «не заўважылі» змен. Возьмем Станіслава Грабскага «Заўвагі аб бягучай гістарычнай хвілі Польшчы» (1923 г.), шмат артыкулаў Вацлава Студніцкага, а нават Ляона Васілеўскага. Усе яны адносіліся да беларускай праблемы як да статычнага вобразу і ў асноўным як найлягчэйшай да вырашэння, чым якая-небудзь іншая нацыянальная праблема ў тагачаснай Польшчы. Раптоўнасць змен, якія адбываліся ў беларускім народзе, заўважыла нямнога палітыкаў і публіцыстаў. Да гэтых нешматлікіх адносіўся Канстанты Срокоўскі. Але і ён, а нават будучыя кіраўнікі Грамады ў 1920—1923 гадах не ацанілі ўсёй глыбіні змен і яшчэ верылі, што ў пэўных умовах, асабліва пры задавальненні мінімальных беларускіх пастулатаў — працэс бурных змен удасца паўстрымаць. Але гэты працэс не стрымаўся, а ўзрастаў. І 4 ваяводствы: Палескае, Віленскае, Беластоцкае і Навагрудскае, якія шматлікім здаваліся быць найлягчэйшай тэрыторыяй да рэалізацыі асімілізацыйнай палітыкі, не толькі не здзейснілі надзеі, але сталіся своеасаблівым складам рэвалюцыйнага пораху на ўсю Польшчу.**

**Першым прадвеснікам надыходзячай буры ў народзе «забытым праз Бога і людзей», для многіх громам з чыстага неба — былі вынікі выбараў у Сейм у лістападзе 1922 года. Наступным громам, які разлёгся па ўсёй Польшчы — было паўстанне апазіцыі ў «Вызваленні» на Віленшчыне і Палессі, якая ў 1924 годзе ўтварылася як асобная партыя — Незалежная сялянская партыя, на чале якой стаяла група паслоў у сваёй большасці беларусы: Балін, Галавач, Бон, Шакун, Шапель. З Віленшчыны паходзіў таксама кіраўнік НПХ — Сыльвестр Ваяводскі. НПХ дзякуючы сваім сувязям з КПП, паступова распаўсюджвала свае ўплывы на ўсю Польшчу і сталася найбольш радыкальнай польскай сялянскай партыяй з удзелам вялікай колькасці беларусаў. Месцам, адкуль выводзілася НПХ, была Вільня, якая ў той час была цэнтрам беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. У хуткім часе пасля НПХ — разбушавалася бура, Грамада. 10 гадоў пазней, зноў у Вільні ўтварылася група польскай інтэлігенцыі радыкальнай на чале з Генрыкам Дэмбіньскім. уплывы якой ззялі на ўсю краіну.**

**Пералічаныя тут 4 гістарычныя здарэнні ў міжваеннай Польшчы не выпадкова мелі свае пачаткі на Віленшчыне і Палессі. Кожнае паасобку паўстала з многіх прычын, але іх супольным назоўнікам была глыбокая сувязь з кліматам, які існаваў на гэтых землях і раптоўнымі зменамі, якія ўзніклі ў беларускім народзе ў дваццатых гадах нашага стагоддзя.**

**Менавіта справа ідзе пра ўстанаўленне прычын раптоўнасці гэтых змен у беларускім народзе ў гэты перыяд. Гэта праблема надзвычай важная, якая насоўваецца ў час чытання артыкула рэд. Паўлючука. Да гэтага часу лічылі, што гэтымі прычынамі былі: І. вынікі вайны і рэвалюцыі ў Расіі, а таксама ўтварэнне БССР, 2. шасці- ці васьміразовыя змены ўлады на працягу некалькіх гадоў на тэрыторыі Віленшчыны, Беласточчыны і Палесся, 3. вынікі неразумнай нацыянальнай палітыкі як эндэцкай так і пілсудчыкоўскай, а таксама банкруцтва планаў апоры праз усялякія беларускія партыі на якую-небудзь дзяржаву буржуазнага тыпу. 4. той факт, што нацыянальнае пытанне на Заходняй Беларусі поўнасцю пакрывалася з сялянскім пытаннем, 5 фактарам вялікай важнасці было, бясспрэчна, тое, што на чале нацыянальна-вызваленчай барацьбы сталі радыкальныя элементы, гегемонам у гэтай барацьбе сталася Камуністычная партыя, а не як у Заходняй Украіне, дзе нацыянальны рух быў дыферэнцыраваны.**

**І вось сёння штораз больш мы павінны задумоўвацца над выказваннем Марыі Кашуцкай на І з'ездзе КПЗБ (1928 г.). Бо яна, гаворачы аб прычынах небывалых поспехаў Грамады, шукала крыніцы гэтай з'явы не толькі ва ўсіх вышэй прыведзеных фактарах, але сягнула да гісторыі беларускага народа. Тав. Кашуцкая (Кастрэва) сцвярдзіла, што беларускі селянін ад вякоў быў свядомы сваёй грамадскай (каставай, а потым класавай) адасобленасці. а не быў свядомы нацыянальнай адасобле-**




ДАДАТАК «НІВЫ» ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ
№ 50 (411) 12 снежня 1965 г.



### ЛЯСНАЯ СТАЛОВАЯ

Нас нясуць з крутой гары
Лыжы — коні смелыя.
Сталі мы, як млынары,
Ад сняжынак белыя.

Цяжка птушкам і звяркам
У зіму суровую.
Я кажу сваім сябрам:
— Зробім ім сталовую.

Мы з пянькоў змялі сняжынкі
І кладзём на іх скарынкі,
Сыплем ягады рабіны,
Што гараць, нібы рубіны,
Тут і шышачкі яловыя —
Будзе добрая сталовая.

Паўлюк Прануза




Ігар заўсёды моцна баяўся холаду. У класе ён аблюбаваў сабе месца ў самым зацішным кутку, каб з дзвярэй ці з вокан скразняком не прадзьмула. Зімой яго і не выцягнеш на вуліцу. Улетку, праўда, ён часцей бываў на двары, але ніхто не бачыў Ігара ў трусіках або ў майцы. Аднойчы сябры неяк угаварылі яго пакупацца. Ігар згадзіўся, але палез у ваду ў камізэльцы.

— Голы прастуджуся, — кажа.

І каб быў худы ці які хваравіты, а то шчокі ружовыя, сам тоўсты, што саломы куль. Цімка кажа, што ў Ігара тлушчу, як у пінгвіна, яго і без вопраткі можна на полюс пасылаць.

У час зімовых канікул паехаў Ігар з бацькам у вёску да дзядзькі. Хоць у машыне грэла печка, Ігар папрасіў маці абвязаць шалікам каўнер паліто, а ногі захутаць у ватовую коўдру. І ўсё роўна ў дарозе моцна змёрз.

У вёсцы, куды ні зірнеш, — прыгажосць. Палі бялюткім снегавым пухам засланы, дрэвы ў інеі стаяць. Ігару і хочацца прабегчыся па цаліне, ды марозу баіцца. З-за яго і Міхасёк, стрыечны брат, сумуе ў хаце.

— Давай да таты ў кузню збегаем, — прапануе Міхасёк.

— Што ты. Глядзі, якія гурбы на дарозе! — жахнуўся Ігар.

— А ты на санкі сядзеш, я цябе мігам дамчу, — угаварвае Міхасёк.

Угаварыў. Вось і кузня. Пераступіў Ігар парог і рот разявіў ад здзіўлення. У горане вугалі гараць, аж гул ідзе. Дзядзька стукае малатком па кавалку распаленага жалеза. Яно такое падатлівае, мяккае, як цеста, калі маці пірагі пячэ. Нарэшце, дзядзька паклаў молат і тыцнуў гарачае жалеза ў карыта з вадой. Зашыпела яно, угору пара шуганула.

— Навошта гэта вы? — пацікавіўся Ігар.

— Як навошта. Загартоўваю! — адказаў дзядзька і пажартаваў: — Каб не баялася ні гарачыні, ні холаду.

Задумаўся Ігар. Дык вось чаму яго сябры холаду не баяцца. Гэта ж яны ўлетку пякуцца на сонцы, а потым голымі — бултых у ваду! Вось таму і дужыя.

Ігар не стаў чакаць надыходу лета. Яму хацелася адразу ж «загартавацца». Вярнуўшыся з вёскі дамоў, ён выбраў час, калі дома нікога не было, напусціў у ванну ледзяной вады. Потым распрануўся і сеў каля батарэі. А батарэя была такой гарачай, што Ігар праз некалькі хвілін аж спацеў. «Градусаў на сто награўся», — рашыў ён, мацаючы ўзмакрэлы лоб.

Пасля гэтага хлопчык хуценька падбег да ванны і — бултых у ваду!

Зашыпеў ён ці не, пайшла пара ўгору, убакі ці ўніз — Ігар нічога не помніў. Холад вострымі калючкамі сціснуў грудзі, заняло дыханне, усё цела ахапілі дрыжыкі.

Ледзь жывы ад холаду Ігар дабраўся да ложка і з галавою залез пад пярыну. Хутка ён сагрэўся і заснуў.

...Прачнуўся Ігар — у вачах плавалі цёмныя кругі. Не адразу заўважыў ён незнаёмага дзядзьку ў белым халаце.

— Ну, усё ў парадку, — весела сказаў той. — Крызіс мінуў. Больш я тут не патрэбен.

— Не ведаю, як і аддзякаваць вам, доктар, — пачуў Ігар узрадаваны голас маці. — Гэта ж хлопец трое сутак без памяці ляжаў.

«Трое сутак! — жахнуўся Ігар. — Няўжо чалавеку аж трое сутак трэба гартавацца? Але цяпер я, відаць, ужо ніякага холаду не збаюся!»

П. Беразняк









## Ці ты не забыўся выпісаць „Зорку“ на будучы год?

### ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК




— Не буду ніколі
Так моцна сваволіць!

### А·Д·І·А·Д·А·Н·К·А

Назавіце, з якіх машын узяты дэталі для ўсюдыхода.



### «ЗДАГАДЛІВАЯ» ВАРОНА

Магчыма, вы чыталі байку пра здагадлівую варону, якая дужа хацела піць і знайшла гарлач з вадой. Вады было мала, толькі да палавіны гарлача, дзюбай не дастаць, але варона здагадалася накідаць у гарлач каменьчыкаў. Узровень вады нібыта падняўся аж да берагоў, і варона змагла прагнаць смагу.

Як вы думаеце: ці магла варона напіцца такім чынам? Праверце свой адказ на доследзе.



Адрас рэдакцыі: Białystok, ul. Wesołowskiego 1, „Zorka“. BZGraf. C-3



## З В'етнама

**Ваенныя вучэнні аднаго з паўстанцкіх атрадаў у Паўднёвым В'етнаме.**

# Паспяхавасць атруты залежыць ад пары дня!

Назіранні ўражлівасці жывых арганізмаў на хімічныя субстанцыі давялі амерыканскіх фізіёлагаў і біяхімікаў да адкрыцця, што паспяховасць атруты залежыць ад пары дня.

Праведзеныя эксперыменты на жывёле паказваюць на агромную розніцу ўражлівасці на дзеянне атруты і таксін бактэрыйнага паходжання.

Вучоныя прыкмецілі, што ў пэўных выпадках тая самая доза субстанцыі, якая нармальна выклікала толькі 3% смерці, калі падавалі ў іншым часе, выклікала агромны ўзрост смяротнасці доследнай жывёлы — перавышаючы 85%.

Доследы, якія праводзіліся на жывёле і насякомых, выяўляюць пэўнае падабенства арганізмаў жывых і залежнасць жыццёвай функцыі ад сутачнага цыкла. Доследы паказалі, што насякомыя досвіткам былі вельмі мала ўражлівыя на атруту. Паступова ўражлівасць гэтая ўзрастала, дасягаючы максімум у 6 гадзін пасля ўзыходу сонца. Пасля гэтага перыяду ўражлівасць паступова зменшвалася, каб ізноў пасля 3 гадзін паўторна ўзрасці.

Механізму наглядаючых з'яў не ўдалося яшчэ дакладна растлумачыць. Мяркуюць, што існуе тут пэўная сувязь паміж актыўнасцю сонечнага праменявання, а актыўнасцю жывых арганізмаў. Штучная змена асвятлення выклікала адхіленні ў сутачным цыкле неўспрыімлівасці.

(а-лів)

# Прэміі паслушным правадырам

Урад белых расістаў у Паўднёвай Радэзіі пастанавіў значна павялічыць плату для правадыроў негрыцянскіх плямёнаў, каб такім спосабам запэўніць іх паслухмянасць і помач супроць нарастаючага нацыянальна - вызваленчага руху радэзійскіх неграў.

Да гэтага часу правадыры атрымоўвалі каля 460 фунт-стэрлінгаў (1288 доляраў) штогод. Цяпер правадыры будуць мець большую плату на 360 фунт-стэрлінгаў. Такую павышаную плату будуць атрымоўваць тыя правадыры, якія карыстаюцца даверам у вачах міністра ўнутраных спраў радэзійскага расісцкага ўрада.

Вядома, што міністр не будзе плаціць дадатковых плат толькі за прыгожыя вочы. Чорныя правадыры павінны заслужыць на такую дадатковую плату, добра падлізацца белым панам. (ся)



**ЦІКАВЫ МОСТ**

**У сувязі з будоваю плаціны ў Вестфаліі (ГФР), якой штучнае возера будзе мець аб'ём 162 мільёны кубаметраў, неабходнай была будова шасці мастоў.**

**На здымку вы бачыце сучасны мост: зверху ідаць маставую прызначаную для колавага руху, а ніжэй — чыгунку.** (а-лів)

# 50-ТОМНАЯ БІБЛІЯГРАФІЯ

Пад эгідай літоўскай Палаты кніжкі, установы, якая выконвае на працягу дваццаці гадоў ролю цэнтральнага бібліяграфічнага пункта і галоўнага кнігасховішча Літоўскай ССР, пачалася праца над падрыхтоўкай манументальнай бібліяграфіі, рэгіструючай усе друкі літоўскія, польскія і аб'яўленыя на іншых мовах на літоўскай зямлі ў перыяд ад прымянення друку па сённяшні дзень. Бібліяграфія будзе налічваць звыш 50 тамоў, прычым аўтары гэтага агромнага выдавецтва прадугледжваюць, што большая колькасць тамоў прыпадзе на польскі друк.

Зараз канчаецца праца над першым томам бібліяграфіі, які ахоплівае друк на літоўскай мове выдадзены Вялікім Княствам у 1547—1871 гадах. Рэдакцыя манументальнай бібліяграфіі блізка супрацоўнічае з варшаўскай Нацыянальнай Бібліятэкай. (а-лів)

# Новаадкрыты корпус

**Некалькі гадоў таму каля Кракава пачалася будова вялікага, сучаснага Інстытута педыятрыі Кракаўскай Медыцынскай Акадэміі. У канцы лістапада быў адкрыты адзін з карпусоў гэтага Інстытута, які мы бачым на здымку.** (лів)



# Ці ведаеце...

...што рыбы расходуюць на працягу сутак толькі вады, колькі самі важаць. Чалавек жа выпівае ў сярэднім у дзень толькі 2,5 літра вады, што складае 3% яго вагі.

...што ў глебе кожнага гектара нашага агарода жыве каля 100.000 усялякіх чарвякоў. Супольнымі сіламі перамяшчаюць яны ў год каля 30 тон зямлі. (а-лів)

# Як лячылі рыбу

У ніводным заапарку на свеце не могуць пахваліцца, што ў іх доўга пражыла бялуга. А гэту прывязлі ў Маскоўскі заапарк зусім нядаўна. Цяпер яна вырасла вялікай!

Аднаго разу старая бялуга прыхварэла: яна доўга мацавалася, але раптам выцягнулася на ўвесь рост і выплыла наверх дагары жыватом. Пабеглі шукаць лекара. Сталі кідаць у ваду таблеткі. Не памагала. Што рабіць? Валянціна Яфімаўна ніколі не чула, каб так рабілі рыбам. але другога выйсця не было і яна рашылася. Зрабіла ўкол. Для бялугі адразу стала лягчэй. (а-ся)

## Аляксей Карпюк
# ПУШЧАНСКАЯ АДЫСЕЯ

**Аднаго летняга дня, калі мы з Валодзькам ужо сядзелі ў Штутгофе, бацька адправіўся ў Гарадок на пошту з пасылкай. Выязджаючы з хвойніка ля Зарачан, сярод пясчаных выдмаў і ядлоўчыкаў ён убачыў купу людзей. Пяць перапалоханых мужчын штосьці разглядалі на пяску. З мястэчка сюды вывозілі расстрэльваць людзей, і бацька здагадаўся, у чым справа. Мужчыны знаёмыя, яўрэі з Гарадка. Ён стрымаў кабылу, накіраваўся да іх.**

**Прадчуванне бацькі не ашукала. Ля свежавыкапанай магілы ляжалі два хлопцы ў цывільнай вопратцы — загарэлыя, паголеныя. Адзін раскінуў мускулістыя рукі і прыадкрытымі вачыма глядзеў у неба; другі лёг на жывот, абняў зямлю, нібы ўпарта думаў. Каб не набрынялі пухіры счарнелага пяску пад імі, а па тварах і шыях не лазілі мухі, можна было б падумаць, што хлопцы тут пад кустамі адпачываюць.**

**— Нічыпар, — паскардзіўся адзін з гарадоцкіх, — прыгналі нас закопваць, ды адзін яшчэ жыве!**

**— Ну-у?**

**— Ды-ыхае! — з жахам паказалі рыдлёўкамі.**

**Бацька прыгнуўся. Сапраўды, у таго, які ляжаў ніцма, вылятала хрыпенне, быццам чалавек глыбока спаў. Часамі ён усхропліваў мацней, тады з-пад галавы выскаквалі ўстрывожаныя бойкія зялёныя мухі і пырскалі ва ўсе бакі.**

**— Хто гэта? — спытаўся бацька.**

148

**— Не тутэйшыя. Ноччу іх недзе злавілі, прывезлі ў Гарадок. Раніцой тут пабілі.**

**— Што цяпер нам рабіць? Чакаць, пакуль памрэ? А калі ён так да вечара будзе дыхаць?**

**Бацька азірнуўся.**

**Паблізу ў брычцы пёрся нейкі немец.**

**Далёка з Гарадка пыліла машына.**

**— Пачакаем, няхай праедзе. Тады адвалачом у кусты, мо яшчэ адыдзе...**

**Але немец, наблізіўся да бацькавай фурманкі, спыніў сваю брычку, прывязаў да козлаў лейцы, накіраваўся да іх.**

**— Гвалт, амтскамісар!**

**Усе пяцярых кінуліся да ямы, пачалі старанна грэбаць рыдлёўкамі.**

**— Was ist denn?[1]) — спытаўся немец.**

**Ніхто не адказаў. Мужчыны раўнялі краі ямы, асякалі сценкі, не зводзілі насцярожаных вачэй з фельдфебелевых ботаў.**

**Немец засадзіў пальцы за пояс, насцярожана прыгнуўся. На секунду ўсе перасталі дыхаць. У небе зацягнуў песню жаўрук, але чамусьці яе абарваў і, ціўкаючы, упаў паблізу на поле. Пад ядлоўцам суха і бадзёра пратрашчаў конік, пакуль не скончыўся завод. Мякка прафыркала маторам, асцярожна аб'язджала фурманкі машына. Сярод гэтых гукаў выразна было чуваць як хрыпеў чалавек.**

**Мужчыны нават не паспелі ахнуць, калі фельдфебель выняў пісталет і наставіў хлопцу ў плечы.**

**Тах! Тах! Тах! — глуха ў спёцы прагучалі стрэлы.**

**— Runter mit diesem Drecksäcke![2]) — завішчаў камісар і ўпіхнуў парабелум у кабуру.**

**Два яўрэі ўтыкнулі ў капец рыдлёўкі, узялі хлопца за рукі і ногі, ды з жахам адскочылі: ён па-ранейшаму хрыпеў!**

149

**— Runter schmeifen![3] — выходзіў з сябе немец.**

**Людзі не варушыліся.**

**Пырскаючы слінай, балбочучы незразумелыя для бацькі словы, немец выхапіў у крайняга рыдлёўку, падляцеў да хлопца і пачаў сячы яму галаву. Людзі глядзелі на гэтую жудасць нібы загіпнатызаваныя, не будучы ў стане зрушыцца з месца. Раз'юшаны камісар піхнуў ботам адно цела ў яму, другое. Абрынуўшы за сабой пясок, целы безуладна пападалі, як папала, пераблытаўшы рукі, ногі.**

**— Zuhraben! [4])**

**Яўрэі кінулі па рыдлёўцы пяску, замерлі зноў.**

**З ямы яшчэ выразней было чуваць, як хрыпіць чалавек — цяжка, з прысвістам.**

**— Arbeiten, verflüchte Hunde![5]) — пачаў фашыст малаціць усіх рыдлёўкай.**

**Бацька быццам бы не заўважыў, што немец паказаў на яго таксама. Моцна сціснуў пугаўё, накіраваўся да каня. «Ну, — падумаў, — няхай толькі верне! Не палічуся ні з сынамі, ні з жонкай, ні з гэтымі гарадоцкімі. Задушу, а там няхай будзе, што мае быць!»**

**Немец яго не затрымаў.**

**Амтскамісараў гняды аж blішчаў ад тлушчу, бакі меў распісаныя ў яблыкі. Пачуўшы ў бацькавым возе сухары, конь сунуў морду ў палукашак, разматаў пасцілку, у якой маці закруціла пачкі, зубамі ўжо рваў палатніну на пасылках. Бацька адагнаў каня, ускочыў у воз, азірнуўся. Узвар'яцелы камісар утоптваў магілу, нібы танцаваў.**

[1]) — У чым справа?
[2]) — У яму гэтыя мяшкі бруду!
[3]) — Кідайце ў яму!
[4]) — Засыпаць!
[5]) — Працаваць, праклятыя сабакі!

150

